*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 44 (152) ◈ 3 лістапада 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**ДЗЯРЖСАКРАТАР ЗША УОРЭН КРЫСТАФЕР НАВЕДАЎ З ВІЗІТАМ РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ,** у час якога правеў перамовы са Старшынёй Вярхоўнага Савета і ўрадам нашай краіны. Акрамя праблем ядзернай бяспекі і раззбраення, разглядаліся пытанні эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва паміж дзвюма дзяржавамі.

***ПРАДСТАЎНІКІ БЗВ** перадалі камандаванню пагранічных войск нашай краіны частку тыражу расійска-беларускага вайсковага слоўніка, які быў падрыхтаваны да друку падпалкоўнікам Станіславам Суднікам. Хочацца верыць, што слоўнікам будуць карыстацца.*

На Менскім аўтамабільным заводзе завяршаецца зборка першых двух беларускіх аўтобусаў па ліцэнзіі заходнегерманскай фірмы «Неаплан». Што ж, у незалежнай краіне павінна ўсё быць сваё: і герб, і сцяг, і мова, і нават аўтобусы.

*Прэс-канферэнцыі*

## «ВЯСНА-94» — ЗА ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ ВЫБАРЫ

9 кастрычніка ў сталічным Доме літаратара адбылася прэс-канферэнцыя з нагоды ўтварэння аб'яднання дэмакратычных сіл «Вясна-94».

Ва ўступным слове старшыня Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі (АДПБ) А. Дабравольскі падкрэсліў, што Рэспубліка Беларусь — адна з тых дзяржаў, дзе рыначныя рэформы ідуць з недаравальным спазненнем. «Ці не таму,— адзначыў ён,— на шляху да рынку ў нас практычна няма ніякіх вынікаў?» Прамоўца звярнуў увагу на тое, што галоўнай мэтай згаданага аб'яднання, ініцыятарамі якога разам з АДПБ выступаюць Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада (БСДГ) і Беларуская сялянская партыя (БСП), з'яўляецца «стварэнне палітычных умоў для цывілізаванага пераходу ад таталітарнай сістэмы да прававой дэмакратычнай дзяржавы».

Старшыня БСДГ А. Трусаў прапанаваў ад імя трох партый — заснавальнікаў аб'яднання — перадаць адпаведнай пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета рэспублікі праект новага Закона аб выбарах. Ён таксама зазначыў, што «Вясна-94» павінна стаць, на думку стваральнікаў, блокам усіх некамуністычных сіл, якія будзе змагацца за дэмакратычныя выбары. Час іх правядзення — вясна наступнага года. Прадстаўнік незалежных прафсаюзаў — Канфедэрацыі працы Беларусі — А. Шакалаў выказаў меркаванне: у цяперашняй палітычнай і эканамічнай сітуацыі на Беларусі, «калі выбары (вясной) не адбудуцца, то мы фактычна ўбачым, што ад нашай незалежнасці нічога не застанецца».

Выступілі таксама прадстаўнікі іншых партый, арганізацый і грамадскіх рухаў. Акрамя пералічаных партый, да аб'яднання «Вясна-94» далучыліся: Згуртаванне прадпрымальнікаў Беларусі, Хрысціянская злучнасць «Курапаты», Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій, Саюз фермераў Беларусі, «Дзеці Чарнобыля», акцыянернае таварыства «Кросны», іншыя арганізацыі і прыватныя асобы. Дасягнута дамоўленасць, што галоўнымі прынцыпамі аб'яднання «Вясна-94» з'яўляюцца: будаўніцтва суверэннай Беларускай дзяржавы, яе бяз'ядзерны статус і неўваходжанне ў ваенныя блокі, прыярытэт правоў грамадзян перад інтарэсамі дзяржавы, а таксама рэфармаванне каманднай эканомікі ў сацыяльную рыначную. Асноўныя задачы аб'яднання — утварэнне кааліцыйнага ўрада народнага даверу для ажыццяўлення рашучых эканамічных рэформ і правядзенне выбараў у Вярхоўны Савет не пазней вясны наступнага года на падставе новага Закона аб выбарах. Былі створаны і каардынацыйны орган аб'яднання, які ўзначаліў дацэнт БДУ Г. Стэльмах.

Прадстаўнікі партый, грамадскіх рухаў і арганізацый, якія далучыліся да аб'яднання «Вясна-94», адказалі на пытанні журналістаў. Сярод апошніх, дарэчы, найбольшую актыўнасць дэманстравалі карэспандэнты з Польшчы і беларускай службы радыё «Свабода». І яшчэ. З прыемнасцю адзначым, што рабочай мовай прэс-канферэнцыі была наша дзяржаўная мова.

М. В.

*Беларускія задачкі часоў незалежнасці*

## Чаму?

Ні для каго не сакрэт, што выключнае месца ў фармаванні самасвядомасці народа маюць сродкі масавай інфармацыі (ТБ, радыё, прэса). У студэнцкім асяродку сфармаваліся пытанні, якія моладзі здаюцца неадкладнымі:

1. Чаму да гэтай пары на Беларускім тэлебачанні вядуцца многія важныя перадачы, у тым ліку дзіцячыя, на замежнай (расійскай) мове? Абсалютная большыня мастацкіх фільмаў, якія збіраюць самую масавую аўдыторыю, таксама на ёй.

2. Чаму выходзяць (масавымі накладамі) газеты, якія ліюць бруд на мову беларусаў і ў той жа час не толькі не праследуюцца законам, але і фінансуюцца за кошт дзяржавы, якую разбураюць? Такія, як «Рэспубліка», «Советская Белоруссия», «Белорусская нива», якая разбурае свядомасць сялян.

3. Чаму няма сілы ў міністра інфармацыі, чаму яго трымаюць за хлопчыка для біцця чыноўнікі з Савета Міністраў, розныя драгаўцы і паваляевы, тады, калі ён выбраны Вярхоўнай Радай? Ці не варта яму ў знак пратэсту падаць у адстаўку?

С. ВАСІЛЕНКА, студэнт.
г. Менск.

### У ГРОДНЕ ЗАМЕСТ ПОШУКАЎ БАНДЫТАЎ ТРАСУЦЬ «НАЦЫЯНАЛІСТАЎ» І САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ?

Як вядома са сродкаў масавай інфармацыі, у Гродне быў застрэлены адзін з лідэраў пракамуністычнай большасці ў Вярхоўным Савеце, старшыня абласнога Савета народных дэпутатаў Дзмітрый Арцымень. У забітага была знойдзена вялікая сума амерыканскіх долараў ды потым у службовым кабінеце ў сейфе яшчэ германскіх марак у пераразліку на рублі па дзеючаму курсу каля 70 мільёнаў. Адразу ж была пушчана чутка, што гэта забойства «палітычнае». А калі так, то паколькі Арцымень быў камуністам, Упраўленне КДБ па Гродзенскай вобласці, відаць, па ранейшай звычцы ўзялося правяраць дэмакратаў ды «нацыяналістаў». Так да следчага КДБ В. В. Музычэнкі быў выкліканы на допыт па справе забойства і актывіст Таварыства беларускай мовы і старшыня Гродзенскай філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады сп. Міхал Патрэба. Як законапаслухмяны грамадзянін ён згадзіўся адказваць на пытанні следчага, але папрасіў весці допыт на беларускай мове. Следчы В. В. Музычэнка, аднак, беларускай мовай не валодаў. На дапамогу ён паклікаў нейкага пракурора і старшага следчай групы (прозвішчаў сваіх не назвалі), і тыя на расійска-беларускай трасянцы неяк змаглі растлумачыць паддопытнаму, па якой справе ён выкліканы. Даведаўшыся, у чым справа, сп. М. Патрэба далейшыя паказанні даваць адмовіўся, палічыўшы гэты допыт палітычнай правакацыяй. Пасля чаго быў адпушчаны.

У сувязі з гэтымі прыкрымі падзеямі рада Гродзенскай філіі БСДГ прыняла заяву, дзе гаворыцца, што выклік на допыт у КДБ старшыні рады Гродзенскай філіі БСДГ, як і лідэраў іншых дэмакратычных арганізацый, расцэньваецца як палітычная правакацыя, спроба якім-небудзь чынам скампраметаваць Граmаду і іншыя адраджэнскія сілы ці запалохаць іх. У той жа час,— гаворыцца далей у заяве,— амаральнасць выкрыстання крымінальнага злачынства ў палітычных мэтах відавочная. А правакацыя сведчыць: нехта ўпарта ўцягвае дзяржаўны орган, які павінен стаяць на абароне дзяржаўнай бяспекі, ва ўнутрыпалітычныя спрэчкі. Яна выглядае тым больш злавеснай,— адзначаецца ў заяве,— што чырвона-карычневыя на Беларусі, усе гэтыя СС, СА, ПКБ і г. д., беспакарана працягваюць сваю разбуральную дзейнасць супраць Беларускай дзяржавы. У заяве звяртаецца ўвага на небяспечнасць рэцыдываў старога мыслення ў частцы супрацоўнікаў праваахоўных органаў.

Наш няштатны карэспандэнт.
г. Гродна.



Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч прыняў дэлегацыю Федэральнага міністэрства адукацыі і навукі Германіі, якую ўзначальваў дзяржсакратар Федэральнага міністэрства пан Шауман.

Дэлегацыя прыбыла ў Менск для адкрыцця ў беларускай сталіцы Цэнтра эканамічнай падрыхтоўкі.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.

Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА, Белінфарм.

# Заходняе Палессе — дыялектны ландшафт

*(Гутарка з кандыдатам філалагічных навук Ф. Д. Клімчуком)*

**— Фёдар Данілавіч, Вы па адукацыі гісторык, але на працягу многіх гадоў займаецеся вывучэннем палескіх гаворак. Чаму Вас зацікавіла менавіта гэтая тэматыка?**

— Справа ў тым, што я даўно заўважыў цесную сувязь гаворак з гісторыяй той тэрыторыі, на якой яны распаўсюджаны. Сучасныя гаворкі з'яўляюцца вынікам шматвяковага гістарычнага развіцця. Нарадзіўся я на Палессі, у Драгічынскім раёне. Спачатку закончыў гістарычнае аддзяленне Пінскага настаўніцкага інстытута, потым гістарычны факультэт Менскага педінстытута. Доўгі час працаваў настаўнікам. Пасля заканчэння аспірантуры абараніў кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную фанетыцы і групоўцы гаворак Заходняга Палесся. З 1971 года працую ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі ў аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, які займаецца вывучэннем гаворак на тэрыторыі Беларусі. Я даўно займаюся даследаваннем брэсцка-пінскіх гаворак, якія, на маю думку, утвараюць асобную групу. Існуе цэлы шэраг рыс, якія іх аб'ядноўваюць і адрозніваюць ад суседніх дыялектных адзінак. У прыватнасці, назавём дзве асноўныя рысы: цвёрдасць зубных зычных перад этымалагічнымі **е, і** *(дэнь, нэ́бо, ходы́ты, сы́ла)*; адсутнасць дзекання-цекання (*дівчына, тя́жко*). Можна выдзеліць чатыры асноўныя тыпы ўнутры гэтых гаворак: сярэднезагародскія, паўднёвазагародскія, паўночназагародскія і таракanскія.

**— Відавочна, што яны ўсе маюць свае фанетычныя асаблівасці і пашыраны на пэўнай тэрыторыі?**

— Так. Сярэднезагародскія гаворкі пашыраны пераважна ў сярэдняй паласе рэгіёна ад Заходняга Буга да заходняй часткі Столінскага раёна. Гэтыя гаворкі ўтвараюць некалькі масіваў. Для іх характэрна захаванне пад націскам гука, які абазначаецца літарай **я** ў літаратурнай беларускай мове: *зять, я́ма, гля́ну;* захоўваецца націскны **э (∠е, ь):** *тыпэ́р, дэнь, мэд;* на месцы націскнога **о** ў новых закрытых складах вымаўляецца пераважна **і, ы:** *він, віз, кінь, стыл.* Гаворкі паўднёвазагародскага тыпу пашыраны пераважна на поўдні рэгіёна ад Заходняга Буга да паўднёвага захаду Пінскага раёна. Для гэтага тыпу гаворак характэрна «еканне», г. зн. вымаўленне на месцы націскных ç, 'а пасля мяккіх зычных гука **е:** *зеть, е́ма, глёну.* У паўднёвазагародскіх гаворках, як і ў сярэднезагародскіх, захоўваецца націскны **э (∠е, ь):** *тыпэ́р, дэнь, мэд;* на месцы націскнога **о** ў новых закрытых складах вымаўляецца **і, ы:** *він, віз, кінь, стыл.* Асноўныя масівы паўночназагародскіх гаворак размешчаны на поўнач ад Пінска, на паўночны захад ад Століна, на поўдзень ад Бярозы. У гэтых гаворках на месцы націскнога **о** ў новых закрытых складах выступае **у:** *вун, вуз, стул, кунь.* На месцы націскных **е,** а пасля мяккіх зычных вымаўляецца **я:** *зять, ся́ду, гля́ну;* захоўваецца націскны **э:** *тыпэр, дэнь, мэд.* Адзначаныя тыпы гаворак часта размяшчаюцца церазпалосна. Сярэднезагародскія гаворкі можна сустрэць на паўночным усходзе рэгіёна, паўднёвазагародскія — на паўночным захадзе, паўночназагародскія — на паўднёвым захадзе і г. д. Тараканскія гаворкі ўтвараюць некалькі масіваў і астравоў у Драгічынскім, Іванаўскім, Маларыцкім, Кобрынскім, Пінскім раёнах.

**— Якая найбольш яркая рыса адрознівае тараканскія гаворкі ад іншых?**

— Найбольш характэрная для іх рыса — гэта пераход націскнога **э (<е, ь)** у **а:** *дань, мад, тыпа́р, ва́чур, тра́ба, га́то, ова́чка.* Тараканскім гаворкам характэрна «еканне» *(зеть, е́ма, се́ду, глёну, ше́пка)*, вымаўленне **і, ы** на месцы націскнога **о** ў новых закрытых складах (*він, віз, кінь, стыл).*

**— А што такое перыферыйныя гаворкі?**

— Калі гаварыць пра перыферыйныя гаворкі, дык яны па некаторых рысах збліжаюцца з гаворкамі суседніх дыялектных адзінак. Да перыферыйных гаворак брэсцка-пінскага дыялектнага арэалу, у прыватнасці, адносяцца гаворкі стрыгінскія, паўднёвацеляханскія, сярэднепагарынскія. У іх зубныя зычныя перад **е** цвёрдыя (*дэнь, нэ́бо, зэмля́)* перад **і** — мяккія *(зіма́, ніва)*, цеканне-дзеканне адсутнічае *(ходіті, тіхо, дед).*

**— Фёдар Данілавіч, Вы назвалі групы і тыпы гаворак. Але яшчэ ёсць і дыялектныя зоны.**

— У брэсцка-пінскім дыялектным арэале існуюць дзве дыялектныя зоны: заходнезагародская і ўсходнезагародская. Мяжа паміж імі праходзіць на захад ад Іванава. Дыялектныя зоны тэрытарыяльна накладваюцца на арэалы груп, падгруп, тыпаў гаворак. Найбольш яркай рысай, якая адрознівае заходне- і ўсходнезагародскую зоны, з'яўляецца розны характар вымаўлення зваротнай часціцы: **-ся, -сь** у гаворках заходнезагародскай зоны *(напы́вся, платы́лось)*, **-са, -со** ў гаворках усходнезагародскай зоны *(напы́вса, платы́лосо).* Цікава, што арэал заходнезагародскай зоны супадае з той тэрыторыяй, якая ў X—XIII стст. уваходзіла ў склад Берасцейскай зямлі, а арэал усходнезагародскай зоны — з тэрыторыяй, якая ў той час уваходзіла ў склад Пінскай зямлі. Відавочна, гэта не выпадкова.

**— Ці ёсць у Брэсцкай вобласці ўсходнепалескія гаворкі?**

— Усходнепалескія гаворкі пашыраны пераважна на тэрыторыі заходняй часткі Гомельскай вобласці. Бытуюць яны таксама ва ўсходняй частцы Столінскага раёна (былы Давыд-Гарадоцкі раён).

**— Усюды ўжываюцца назвы «Заходняе Палессе», «заходнепалескія гаворкі», а ці ўсе гаворкі Заходняга Палесся з'яўляюцца заходнепалескімі?**

— Не, не ўсе. На тэрыторыі Брэсцка-Пінскага Палесся пашыраны дзве асноўныя групы гаворак: гаворкі брэсцка-пінскія, пра якія гутарка была вышэй, і гаворкі паўночнабрэсцкія. Паўночнабрэсцкім гаворкам характэрна оканне *(молоко́, голова́)*, мяккасць пярэднеязычных галосных перад **е, і** *(не́бо, земля́, ні́ва)*, цеканне-дзеканне *(дзень, ходзіці, ціхо)*, формы тыпу *васна́, бада́, машо́к пасо́к (вясна, бяда, мяшок, пясок)*, займеннікавыя формы *вон, воно́, вона́, воны́*, дзеяслоўныя формы тыпу *ходзі́ці, пісáці.* Паўночнабрэсцкія гаворкі пашыраны ў раёне Шарышова, Целяхан, Лунінца, на поўдзень ад Ганцавіч.

**— Вы расказалі пра паўночнабрэсцкія гаворкі. Ці пашыраны яны ў паўночных раёнах сучаснай Брэсцкай вобласці?**

— Не. Гаворкі Баранавіцкага, Ляхавіцкага раёнаў, цэнтральнай і паўночнай часткі Івацэвіцкага, паўночнага ўсходу Пружанскага, цэнтральнай і паўночнай часткі Ганцавіцкага адносяцца да гродзенска-баранавіцкай, або панямонскай, групы гаворак.

**— Скажыце, ці магчыма, на Вашу думку, на аснове брэсцка-пінскіх гаворак стварыць літаратурную мову?**

— Уласна кажучы, на аснове любой групы гаворак можа сфарміравацца агульнанацыянальная літаратурная мова або літаратурная мікрамова. Літаратурная мікрамова абслугоўвае пэўную частку нацыі, часта невялікую. У адрозненне ад агульнанацыянальнай літаратурнай мовы ў ёй звычайна існуе некалькі варыянтаў, кожны з якіх адпавядае асобнай групе ці мікрагрупе гаворак або нават асобнай гаворцы. Прывядзём прыклады груп гаворак мікрамоў, на аснове якіх створаны літаратурныя мікрамовы: чакаўскія гаворкі сербскахарвацкай мовы, кайкаўскія гаворкі сербскахарвацкай мовы, закарпацкія гаворкі ўкраінскай мовы, кашубскія гаворкі (многія даследчыкі іх лічаць асобнай мовай), ляшскія гаворкі чэшскай мовы, гаворкі польскіх перасяленцаў у Польшчы з сучаснай Літвы і Беларусі, ніжненямецкі дыялект нямецкай мовы (на гэтым дыялекце існуе нават тэатр).

Мы назвалі толькі некалькі прыкладаў. Даволі багатая літаратура існуе на тых ці іншых гаворках моў славенскай, італьянскай, французскай, англійскай, іспанскай, хіндзі, японскай і многіх іншых. Што тычыцца публікацый на заходнепалескіх гаворках, то мы, у прыватнасці, можам назваць такія: верш ананімнага аўтара, прысвечаны прыезду ў в. Дубай Пінскага павета польскага караля Станіслава Аўгуста (1784 г.); Ф. Савіч. «Там блызко Пыньска...» (30-я гады XIX ст., апубл. у 1882 г.); варыянт «Пінскай шляхты» В. Дуніна-Марцінкевіча (1866, апублікаваны ў 1984 г.); «Кто былы наши найдавнійшіи диды и якая ихъ була доля до Уніи», прызначалася для святароў і настаўнікаў Брэсцкага і Кобрынскага паветаў («Гродненские епархиальные ведомости», 1905, № 24—25, с. 656—664); Сяргей Місевец. «Балада хлібовы» («Сельская газета», 1986, № 72); Андрэй Дынько. «Лыстопад», «Зболяны катарактою...» («Чырвоная змена», 1992, № 24); публікацыі М. Шэляговіча ў часопісе «Беларусь», газеце «Чырвоная змена» і інш.

**— Ды ці будзе ўсё ж на заходнепалескіх гаворках літаратурная мова?**

— Што датычыцца літаратурнай мікрамовы на заходнепалескіх гаворках, дык яна, калі ўлічваць прыведзеныя вышэй прыклады, ужо ёсць. А што датычыцца магчымасці ўтварэння асобнай літаратурнай мовы ў Заходнім Палессі, дык цяпер нам цяжка меркаваць, што можа адбыцца ў будучым.

**— Але ж Мікола Шэляговіч робіць такія спробы.**

— Мікола Шэляговіч прапануе свой варыянт заходнепалескай літаратурнай мовы, на якой публікуецца большасць артыкулаў у газеце «Збудінне». Розныя людзі, якія жывуць ці паходзяць з Заходняга Палесся, адносяцца да яго прапановы па-рознаму. Якая тэндэнцыя атрымае больш прыхільнікаў, пакажа будучыня.

**Гутарыла
Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# Прыехаў з Расіі. Вывучаць мову

**Ужо даволі многа пісалі пра навукоўцаў і студэнтаў з краін далёкага замежжа, якія зацікавіліся вывучэннем беларускай мовы і культуры. Такія людзі ёсць таксама і ў рэспубліках былога СССР. Адзін з іх — Сяргей Клюеў, з якім я нядаўна пазнаёміўся. Зацікавіў мяне Сяргей тым, што спецыяльна прыехаў да нас з Расіі, каб набыць практыку гутарковай беларускай мовы. Ён ужо размаўляе не дрэнна. Тут варта ўлічыць, што нашай мове Сяргей навучыўся па беларускіх часопісах, без дапамогі слоўнікаў.**

**...Хадзіў Сяргей па нашым Менску, гаворачы выключна на беларускай мове. Яго здзіўляла, што адказваюць чамусьці па-руску. Некаторыя сустрэчныя нават казалі, што беларускай не разумеюць. Для нас усё гэта — звыклая справа. Праўда, Сяргей сёе-тое пра гэта чуў, але не падазраваў, што нацыянальны нігілізм тут набыў ледзь не татальны характар.**

**Клюеў жыве ў Ніжагародскай вобласці, рускі, узрост — 25 гадоў, рабочы хлебапякарні. Яшчэ ў школе Сяргей зацікавіўся мовамі, падобнымі па гучанню да расійскай. Спачатку ён вырашыў вывучыць польскую. Чаму менавіта яе? Відаць, таму, што праграмы польскага радыё былі значна цікавейшымі за савецкія. Калі Сяргей больш-менш авалодаў польскай, то адразу заўважыў, што пачаў яшчэ лепш разумець беларускую, якую час ад часу чуў у эфіры. Так нарадзілася цікавасць да беларускай мовы, якая ўзмацнілася пасля развалу СССР і абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Беларускіх слоўнікаў, канешне, не было, але дапамог «Каталог падпісных выданняў». Сяргей спачатку выпісаў «Вожык» і «Работніцу і сялянку» (больш на беларускай нічога не было). Пасля «Чырвоную змену» і часопіс «Беларусь». Праз «Чырвонку» ён даў аб'яву, што жадае перапісвацца з тымі, хто цікавіцца славянскімі мовамі. Водгукаў атрымаў шмат, але зараз з ім працягваюць перапісвацца адзінкі. Яны дапамагаюць Сяргею літаратурай, роспавядамі пра жыццё на Беларусі.**

**Сваёй галоўнай мэтай Сяргей лічыць вывучыць усе славянскія мовы і зрабіць іх параўнаўчы аналіз. Ён збіраецца паступаць на славянскае аддзяленне Ніжагародскага універсітэта. У добры шлях, Сяргей!**

**Сяргей верыць у наша нацыянальнае Адраджэнне і ўпэўнены, што любы рускамоўны чалавек без асаблівых цяжкасцей зможа самастойна авалодаць беларускай мовай.**

**І яшчэ, хто падзяляе Сяргееву цікавасць да славянскіх моў, напішыце: 606110, Россия, Нижегородская область, г. Богородск, ул. Урицкого, д. 84, кв. 3, Сергею Клюеву.**

**Генусь ПУШЧАНСКІ.**

# Весткі з Віленшчыны

* * *

**Паспяхова закончыўся візіт папы рымскага Яна Паўла ІІ у Летуву. Актывісты ТБМ Віленшчыны ўдзельнічалі ў сустрэчы пачэснага госця (на вуліцах горада, у парку Вінгіс-Закрэт, касцёле Святога Духа...) пад бел-чырвона-белым сцягам, распаўсюджвалі плакаты, запрашальныя білеты, давалі жыллё беларускім паломнікам, арганізавалі экскурсію па старой Вільні.**

**У час набажэнства ў парку Закрэт члены рэлігійнай абшчыны «Ромува» сабраліся на гары Гедыміна каля «ахвярнага вогнішча», каб напомніць пра сябе. Гэта язычнікі, якія сваю гутарку потым працягвалі ў рэдакцыі «Рэспублікі». Адзін з актывістаў гэтага рэлігійнага таварыства Тадас Шыдзішкіс сказаў, што ўсе каталіцкія храмы пабудаваныя на месцы разбураных летувіскіх старажытных капішчаў. Але папа не папрасіў прабачэння ў летувіскай нацыі за амаль 200-гадовую агрэсію, калі папы рымскія благаслаўлялі крыжакоў.**

* * *

**Актывісты з віленскай «Сябрыны» неаднаразова прапагандавалі кіёск фірмы «Гуда», што знаходзіцца на праспекце Гедыміна і займаецца продажам лялек, керамікі з Беларусі. Так, у газеце «Пагоня» ў нататцы «Гуда», падпісанай «В. Сябрук» чытаем: Ідзеш сабе па праспекце Гэдыміна, узіраешся ў вітрыны, рэкламныя шыльды сталічнага места і раптам спыняешся, як перад музейным габлетам з дзіўнымі рэчамі — залацістыя перапляценні з саломкі, разьбяныя карункі з дрэва, сакаўныя колеры паліванай керамікі, магічныя беларускія арнаменты... сапраўды, не крама, а якоесьці народнае свята. Хоць ты заспявай: «І шуміць, і гудзе, дробны дожджык ідзе...»**

**Тым не менш, шкада, што ў «Гудзе» няма ні газет, ні кніжак на роднай мове, ні значкоў, ні вымпелаў.**

*Згадкі*

# ЧУЖЫ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

МІНУЛА шмат гадоў, але той канцэрт мне запамятаўся назаўсёды.

Тады, у 1961 годзе, я вучыўся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. А ў вольны час хадзіў на рэпетыцыі ў студэнцкі хор. Нашым спеўным калектывам кіраваў Рыгор Раманавіч Шырма. Вядома, маючы такога знакамітага мастацкага кіраўніка, хор хутка стаў вядомы не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі.

Аднаго разу Рыгор Раманавіч прыйшоў на рэпетыцыю ў нейкім узнёслым і святочным настроі. Калі мы ўжо падрыхтаваліся развучваць новую народную песню, ён абвёў нас сваім бацькоўскім позіркам, папрасіў цішыні і ўрачыста-таямнічым голасам сказаў:

— Да нас з Прагі прыехаў на гастролі выдатнейшы беларускі спявак Міхал Забэйда-Суміцкі. Спявак сусветнай славы! Я маю некалькі запрашальных білетаў на канцэрт, які адбудзецца ў актавай зале кансерваторыі. Усіх парадаваць не магу, але тыя, хто акуратна наведваў усе рэпетыцыі, змогуць заўтра пачуць знакамітага спевака.

Мы сталі распытваць Рыгора Раманавіча пра Забэйду-Суміцкага, прозвішча якога мы пачулі ў першы раз. Яно, дарэчы, нічога нам не казала.

Рыгор Раманавіч паведаміў, што спявак апынуўся на чужыне не па сваёй волі. Мы здагадаліся, што кіраўніку не хацелася казаць пра цяжкі і пакутлівы лёс М. Забэйды-Суміцкага, шмат гаварыць пра яго вялікі талент, адданасць Бацькаўшчыне, любоў да беларускай песні і мовы. Нічога дзіўнага: тым часам у БССР набрала сілу шырокая дэнацыяналізацыя.

Пад канец нашай гутаркі Рыгор Раманавіч прызнаўся:

— З Міхалам Іванавічам я знаёмы даўно. Яшчэ з Вільні. Гэта было пры польскім часе. Пасля кожнага канцэрта студэнты-беларусы выносілі яго з залы на руках...

— А тут могуць вынесці пад рукі,— пажартаваў нехта з нас няўдала.

Рыгор Раманавіч адразу спахмурнеў і замаўчаў.

У той вечар пашчасціла: адно запрашэнне наш мастацкі кіраўнік уручыў мне. Я з нецярплівасцю чакаў заўтрашняга дня, каб пайсці на канцэрт спевака. Кансерваторская зала не змагла ўмясціць усіх, хто жадаў паслухаць голас знакамітага спевака. Не выклікала сумненняў, што ўлады знарок выбралі для канцэрта Забэйды-Суміцкага гэтую невялічкую залу, каб на яго трапіла абмежаванае кола людзей. Спяваў замежны артыст — госць на сваёй роднай зямлі — прачула і натхнёна. Яго рэпертуар быў насычаны арыямі з опер, чэшскімі, польскімі песнямі. Але асаблівую ўвагу і сваё спеўнае майстэрства ён аддаваў матчынай роднай песні. Часта, спеўшы беларускую песню, даставаў з кішэні хустачку і прыкладаў яе да вачэй. Зала горача яму апладзіравала. Пасля кожнай песні і апладысментаў знакаміты саліст звяртаўся да слухачоў, расказваў пра сваю творчую біяграфію. А часта кідаў у залу і крытычныя заўвагі пра тое, што дзеецца ў роднай яму Беларусі.

Па-майстэрску праспяваўшы «Зялёны дубочак», ён раптам звярнуўся да слухачоў:

— Вось мой акампаніятар, чэх, пахадзіў сёння па вуліцах Менска, паслухаў, як тут людзі гавораць, і кажа мне: «Пан Міхал, я не ведаю, куды мы прыехалі на гастролі. У вашу Беларусь ці ў Расію? Тут жа ўсе гавораць па-расійску. Можа, мы памыліліся і не ў той цягнік ускочылі?»

Зала пасля гэтых слоў сціхла, нібы замерла. Але ненадоўга. Хутка на першых крэслах пачулася спярша злоснае, нібы вужачае, шыпенне, а затым цвёрды і рэзкі голас:

— В самом деле, вы сели не на тот поезд!

— И давно в нём едете! — падтрымаў яго з кута залы яшчэ адзін правакатар.

Прыхільнікаў таленту выдатнага спевака і патрыётаў Бацькаўшчыны, што сабраліся тут, нібы кіпнем абдалі. Стала сорамна, балюча і крыўдна за тых людзей, якія прыйшлі сюды, выконваючы заданне, абразіць, збэсціць спевака. Але Забэйда-Суміцкі не разгубіўся:

— Я еду ў правільным накірунку, да сваёй Радзімы. Гэта вы не туды прыехалі і спыніліся не на тым прыпынку! Заблудзіліся, панове!

У адказ зала ўзарвалася апладысментамі. Пасля таго канцэрта спеваку забаранілі выступаць на Радзіме. Яго больш не запрашалі ў Менск. Не дазволілі прыехаць нават памерці на Бацькаўшчыну.

З таго дня мінула шмат часу. Распалася, нарэшце, савецкая імперыя. Пачала ажыццяўляцца мара спевака, гарачага патрыёта М. Забэйды-Суміцкага: яго родная Беларусь абвешчана незалежнай дзяржавай. Пачала ўзнаўляцца яе сапраўдная, а не ўяўная гісторыя. У выдавецтвах пабачылі свет кнігі пра славутых дзеячаў нашай гісторыі і культуры, пачалі выходзіць выданні аўтараў беларускага замежжа. Імёны слаўных сыноў нашай краіны закрасаваліся ў назвах вуліц, плошчаў, школ і ўстаноў. Толькі чамусьці ні ў адным горадзе ці мястэчку Беларусі, якую так шчыра любіў М. Забэйда-Суміцкі і працаваў на яе славу і гонар, няма вуліцы, якая б ушанавала яго светлую памяць. Не знойдзеце вы гэтае славутае імя ні на адной шыльдзе культурных устаноў рэспублікі. Не ўбачыце і кружэлкі з запісам спеўнай спадчыны нашага славутага земляка. Міхал Забэйда-Суміцкі жадаў, каб пасля смерці яго архіў быў перададзены на Радзіму. Воля спевака была выканана, але шырокая грамадскасць рэспублікі нічога не ведае пра далейшы лёс архіва. Дзе ён? Хто працуе з архіўнымі матэрыяламі нашага нацыянальнага генія? Даўно ўжо наступіў той час, калі на аснове фактычнага матэрыялу, які захаваўся ў архіве, можна было стварыць цікавую і вельмі патрэбную для ўсіх нас кнігу.

І апошняе. У 1909—1911 гадах Міхал Забэйда-Суміцкі вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Але чамусьці, калі ў горадзе ішла змена назваў вуліц горада, ні адна з іх не была названа ў гонар нашага знакамітага земляка. Каб выправіць гэты прыкры недагляд, я прапаноўваю прысвоіць яго імя Маладзечанскай музычнай школе.

Памяць пра яго павінна жыць у нашым горадзе.

Мікола КАПЫЛОВІЧ, пісьменнік.

г. Маладзечна.

*Беларускае замежжа*

# Перасцярога «Зубрам крэсавым»

З Канады да нас прыйшоў трэці нумар «Зважай» — часопіса беларускіх ветэранаў. У ім змешчана добра ілюстраваная справаздача пра Першы з'езд беларусаў свету, дзе, дарэчы, згадваюцца тыя ягоныя эпізоды, якія «сціпла» абмінула наша прэса, у прыватнасці, прыкрае выступленне ад імя праваслаўнага святарства айца Міхаіла Уляхіна з Полацка, які не хаваў свае сімпатыі да маскоўскага цара Івана Чацвёртага — Жахлівага, загадам якога быў некалі зруйнаваны багаты беларускі горад, а большасць ягонага насельніцтва захоплена ў палон.

З іншых матэрыялаў найбольшую цікавасць уяўляе палемічны артыкул Кастуся Акулы «Крэкчуць «крэсавыя зубры», напісаны з нагоды публікацый лонданскай газеты «Тыдзень польскі» Цэзарыя Хлябоўскага, дзе ўхваляецца дзейнасць атрадаў Арміі Краёвай на тэрыторыі Заходняй Беларусі падчас Другой сусветнай вайны. Як ветэран гэтай вайны і сведка падзей К. Акула згадвае, што настрої «акаўцаў», выпеставаныя велікапольскай палітыкай з часу падзелу Беларусі паміж Расіяй і Польшчай яшчэ Рыжскім дагаворам 1921 г., былі вельмі адчувальныя, на жаль, і ў гады змагання з гітлераўцамі. «Крэсавыя зубры»,— піша К. Акула,— у часе гітлераўскай акупацыі Беларусі ў 1941—44 гадах, пад загадам лонданскага польскага ўрада вынішчалі ў Навагрудчыне і іншых акругах не толькі беларускую школьную і гаспадарчую адміністрацыю, але і звычайнае цывільнае насельніцтва ды пераважна праваслаўных святароў».

Рашуча не згодны К. Акула з аўтарам лонданскага «Тыдня польскага» наконт таго, што беларусы, забраныя ў польскую армію, нібыта «падкрэслівалі сваю адвагу, храбрасць і выніковую лаяльнасць да Рэчы Паспалітай... з годнасцю вытрымалі два з паловай гады савецкага палону, а пайшлі ў корпус ген. Андэрса, а як бiлiся пад ягонымі загадамі, пра гэта сведчаць па-над 200 магілаў з праваслаўнымі крыжамі на тых ваенных могільніках у Італіі — Монтэ-Касіна, Каса-Масіма, Ларэта і пад Баленіяй». «Застаецца нам меркаваць,— іранічна заўважае К. Акула,— што п. Хлябоўскі, які гэнай вайной быў у аддзеле АК «Вахляж» у Лідчыне, пасля вайны, як добры дух-даследчык, паабегаў на ваенных могільніках у Італіі, налічыў там аж 200 (кругленькая лічба, як-ніяк!) праваслаўных крыжоў ды і запісаў іх у беларусы». Выходзіць, між каталікоў і іншых неправаслаўных,— заўважае К. Акула,— згодна акаўскага даследчыка, беларусаў і не было, нават такіх, якія змагаліся «за сваю Польшчу». Тым часам, згадвае К. Акула, паводле грунтоўнага артыкула д-ра В. Сянькевіча, які даследаваў польскія архівы ў Лондане, «у польскіх збройных сілах пад брытанскай камандай у перыяд ад 1942 да 1947 г. служыла 30867 беларусаў, а з іх 1716 загінула».

А ўвогуле,— піша напрыканцы свайго артыкула К. Акула,— не варта было б акаўцам варушыць стары попел ды заўзята такім чынам «тварыць сабе ворагаў з новага беларускага пакалення. Мы, беларусы,— народ неагрэсіўны, разумеем, што і з палякамі, і з маскалямі трэба трымаць добрасуседскія адносіны ды жыць мірна. Да таго ж не выключана,— заўважае К. Акула, — што ў будучыні ў палякаў могуць быць праблемы з Германіяй, якая, магчыма, паспрабуе пры пэўных умовах спаганяць так званыя «земе одзысканэ».

Ул. АСІНАЎСКІ.

# «Полацак»

Беларуская дыяспара ў розных краінах свету і чытачы на Бацькаўшчыне нядаўна атрымалі шосты ў сёлетнім годзе нумар часопіса «Полацак», які выдаецца Беларускім культурна-асветніцкім цэнтрам ЗША.

У раздзеле «Наша гісторыя» друкуецца артыкул вядомага навукоўца, доктара гістарычных навук Ю. Штыхава «Палітычны лад Полацкай дзяржавы ў X—XIII стагоддзях». Тут жа — абагульняючы матэрыял беларускага гісторыка з ЗША М. Белемука «Тапаграфія знаходак манет і аздобаў» (Менская вобласць). Адзначым, што аўтар, стала жывучы ў Амерыцы, мае, тым не менш, дакладныя звесткі аб знаходках стараДаўніх манетных скарбаў на Меншчыне ў мінулым і нашым стагоддзях.

200-годдзю Менскай праваслаўнай епархіі прысвечаны артыкул старшыні сталічнага клуба «Спадчына» А. Белага. Сваімі ўражаннямі ад Першага з'езда беларусаў свету дзеліцца з чытачамі наша суайчынніца з Амерыкі Святлана Менская. У часопісе змешчаны таксама і дакументы, прынятыя гэтым сусветным форумам беларусаў. Л. Мірачыцкі друкуе ў нумары заканчэнне свайго нарыса «Жыццё для Айчыны», які распавядае аб эмігранцкім лёсе нашай слыннай паэткі Ларысы Геніюш.

Як звычайна, у часопісе публікуюцца цікавыя матэрыялы ў раздзелах «З архіваў эміграцыі», «Памяць зямлі», «Роднае слова». Шмат у нумары іншай разнастайнай інфармацыі.

М.В.

# Беластоцкі «Часопіс»

Нядаўна на Беларусь прыйшоў дзесяты нумар беластоцкага «Часопіса». Сярод беларускамоўных матэрыялаў важнае месца займае інтэрв'ю Юрыя Каліны са старшынёй БНФ «Адраджэньне» Зянонам Пазьняком, якое называецца «Супраць падлюг, здраднікаў і дзяржаўных злачынцаў». На адно з пытанняў карэспандэнта «Часопіса» Зянон Пазьняк адказвае: «Сэнс існавання дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі заключаецца ў тым, што мы не пагаджаемся з такімі (бальшавіцкімі) меркаваннямі. Паводле Беларускага народнага фронта — месца Беларусі ў Еўропе, а не ў Сярэдняй Азіі». Чытачоў чакае праціг успамінаў Яна Жамойціна пра Саюз беларускай моладзі. «Вясковае асяроддзе, хаця ў наш час пэўным чынам здэфармаванае, ствараe своеасаблівую атмасферу з вядомымі толькі яму праблемамі і людскімі суадносінамі» — так пачынаецца артыкул Міколы Сахарэвіча «У Дубічах на зыходзе стагоддзя». У часопісе змешчана шмат іншай інфармацыі з жыцця беларусаў Беласточчыны.

Н. К.

## Вучымся!

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча Бурака.*

*Удакладнім*

# Пытальнік

*А хто там ідзе, а хто там ідзе?*
*У вагромністай такой грамадзе?*

Вядомы верш Янкі Купалы амаль цалкам пабудаваны на пытальных сказах. Відаць, можна сцвярджаць, што пытальныя сказы з іх вялікім эмацыянальным уздзеяннем часта выкарыстоўваюцца ў літаратуры і публіцыстыцы. А як правільна паставіць знакі прыпынку ў такіх сказах? Звернемся да «Даведніка...» Л. І. Бурака.

1. Пытальнік ставіцца ў канцы простых сказаў, якія маюць пытальную інтанацыю і афармляюць прамое пытанне: *Ты хмурная чагосьці?* (Кузьма Чорны). *А каторая для шчасця?* (А. Разанаў). *Брацца за пусташ?* (Ядвігін Ш.).

Заўсёды ставіцца пытальнік у канцы тых сказаў, у якіх пытальная інтанацыя падкрэслена пытальнымі займеннікамі або пытальнымі часціцамі, што стаяць у пачатку сказа: *Хто тут старэйшы?* (А. Куляшоў). *Калі ж да іх загляне сонца ў ваконца?* (Стары Улас).

ЗАЎВАГА. Калі ў канцы пытальнага сказа стаяць пытальныя або клічныя словы ці незавершаныя выразы-загалоўкі, якія бяруцца ў двукоссе, то, незалежна ад пастаўленага перад закрываючым двукоссем пытальніка, клічніка або шматкроп'я, пасля закрываючага двукосся ставіцца пытальнік: *Хто напісаў музыку на верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?»?*

2. Пытальнік ставіцца ў канцы функцыянальных аналагаў сказаў, якія з'яўляюцца аднароднымі кампанентамі, лагічна расчленены і афармляюцца асобнай пытальнай інтанацыяй: *Куды падзеўся конь? Калёсы? Збруя?* (В. Каваль). ПАРАЎНАЙ пытальнік у канцы сказаў з аднароднымі кампанентамі, якія маюць агульную пытальную інтанацыю: *Дзе той здаровы прастор свабоды, прадзедаў нашых думкі, прыгоды?* (Стары Улас). *Чаму я тут, у гэтым балоце, лесе?* (Янка Нёманскі). *Дзе ж іх канец, берагі?* (Якуб Колас).

3. Пытальнік ставіцца пасля функцыянальных аналагаў сказа, якія маюць пытальную інтанацыю і ўжываюцца для ўдакладнення і канкрэтызацыі зместу папярэдняга (пераважна пытальнага) сказа ў тэксце: *А чым вы зацікаўлены? Песнямі, прымаўкамі?* (У. Караткевіч). *Ці ты ўзойдзеш калі, сонца? — Ці ты ўзойдзеш?* (Янка Купала).

4. Пытальнік ставіцца ў канцы складаназлучаных сказаў, у якіх кожная або толькі апошняя прэдыкатыўная частка змяшчае прамое пытанне: *Ці каня не меў, ці сам не хацеў, ці матка не пусціла?* (Народная песня).

Пры лагічным расчляненні і большай самастойнасці такія часткі з'яўляюцца асобнымі сказамі, якія аддзяляюцца адзін ад другога пытальнікам (калі ўсе афармлены пытальнай інтанацыяй) або кропкай (калі адны афармлены апавядальнай, а другія — пытальнай інтанацыяй): *Родны мой Пімен Панчанка, Вы сказалі: настала змярканне? Вы сказалі на маці мачыха? Бо настала Вам развітанне?* (А. Сыс).

5. Пытальнік ставіцца ў канцы складаназалежных сказау, у якіх кожная або толькі галоўная частка змяшчае прамое пытанне: *Адкуль вы ведаеце, што ноччу будзе дождж?* (М. Стральцоў). *Мала дадзена ім — няўжо ж трэба, каб было яшчэ менш?* (М. Багдановіч). *А калі папытае зайтра, дзе ты з школы падзеўся быў сёння?* (Кузьма Чорны).

У канцы складаназалежнага сказа ставіцца пытальнік, калі даданая частка стаіць пасля галоўнай часткі і мае прамое пытанне: *Мячык і цацку трэба аддаць сябрам, бо хто ж ідзе з горада без гасцінца?* (Якуб Колас).

Пытальнік можа ставіцца і тады, калі даданая частка змяшчае ўскоснапрамое пытанне, але афармлена ярка выражанай пытальнай інтанацыяй: *Скажы мне, ягнятка, каго ты спаткаў?* (Алесь Гарун).

ЗАЎВАГА. Калі даданая частка з пытальнай інтанацыяй займае пазіцыю перад галоўнай часткай, якая афармлена апавядальнай інтанацыяй, тады пасля даданай часткі ставіцца пытальнік, а ў канцы складаназалежнага сказа — кропка (самі ж часткі аддзяляюцца адна ад другой працяжнікам): *Што возьме з сяўбы? — ён не згадае* (Янка Купала).

6. Пытальнік ставіцца ў канцы бяззлучнікавых складаных сказаў, у якіх кожная або толькі апошняя прэдыкатыўная частка змяшчае прамое пытанне: *Паслухай добра: чуеш песні?* (Якуб Колас).

Пры лагічным расчляненні і большай самастойнасці такія часткі з'яўляюцца асобнымі сказамі, якія аддзяляюцца адзін ад другога пытальнікам (калі ўсе афармлены пытальнай інтанацыяй) або кропкай (калі адны афармлены апавядальнай, а другія — пытальнай інтанацыяй): *Сонца свеціць? Вецер дзьме?* (Змітрок Бядуля). *Яны хвалююцца. Чаму так доўга няма Андрэя?* (П. Пестрак).

7. Падвоены (іншы раз патроены) пытальнік ставіцца ў канцы сказаў або іх функцыянальных аналагаў, якія змяшчаюць прамое пытанне, падкрэсленае з асаблівай сілай, прыкладам: *Што ж нам рабіць??* (І. Мележ).

8. Пытальнік з клічнікам ставіцца ў канцы сказаў, у якіх прамое пытанне мае розныя эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні: *Вясна, вясна — дзянькі любыя — так дарагі, так мілы час, чаму, як леты маладыя, так скора пакідаеш нас?!* (Стары Улас). *Якая страшная віна нас адшукала?!* (А. Разанаў).

9. Пытальнік з шматкроп'ем ставіцца ў канцы сказаў, у якіх прамое пытанне падаецца як незавершанае (граматычна ці паводле сэнсу); у гэтым выпадку пасля пытальніка, які мае адну кропку, ставяцца яшчэ дзве: *Ці маеце што есці?..* (А. Разанаў).

Такі ж знак прыпынку ставіцца пасля асобных пытальных сказаў або іх функцыянальных аналагаў у тэксце, калі яны сінтаксічна расчленены працяглымі паўзамі (паводле розных прычын), прыкладам: *Пра каго не язычылі ў вёсцы?.. Хоць якія, а ўвага і перамовы... — а пра Тэклю?.. А што пра Тэклю?..* (А. Разанаў).

10. Пытальнік з клічнікам і шматкроп'ем ставіцца ў канцы сказаў або іх функцыянальных аналагаў, у якіх прамое пытанне не толькі суправаджаецца пэўнымі эмацыянальна-экспрэсіўнымі адценнямі, але і не завершана (граматычна ці паводле сэнсу); у такім разе пасля пытальніка і клічніка, якія маюць па кропцы, ставіцца яшчэ адна: *Дзе яно, мінулае?!. Дзе яна, будучыня?!. Дзе яно, сёння?!.* (А. Разанаў). *Хіба ж так трэба! Сілаю?!.* (І. Мележ).

ХАТНЯЕ ЗАДАННЕ. Пастаўце знакі прыпынку ў наступным урыўку з паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка»: *Дзед зірні куды-та хмаркі унь ідуць ідуць як дым Там так добра вольна ярка а яны ідуць Ці ім надта горача ад сонца Ці іх гоніць хто адкуль Ці ім блага там бясконца І скажы дзядок адкуль хмаркі гэтыя выходзяць*

*Слоўнікі*

# Слоўца адно, другое...

***У вестыбюлі Дома кнігі, дзе была наладжана выстава слоўнікаў і даведнікаў, выдадзеных у нашай рэспубліцы, я напаткаў Янку Саламевіча, вядомага беларускага літаратуразнаўца і фалькларыста, чый «Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI—XX стст.)» таксама быў на адным з стэндаў. Я спытаў Івана Уладзіміравіча, чым адметная гэта выстава?***

— Вельмі цікавая і патрэбная выстава. Сабрана каля 540 кніг. Многа гэта ці мала? На першы раз нямала, асабліва, калі не параўноўваць з падобнымі выданнямі нашых суседзяў. Бо выдаваць слоўнікі было не проста. Некалі ж стаяла такая задача: набраць 1000 экземпляраў паводле заявак, каб выдаць кнігу на беларускай мове. І яшчэ: каб выданне абавязкова разышлося на працягу 40 дзён. Таму выставе хапіла гэтага месца.

***— Горшага месца, відаць, і прыдумаць нельга. Асаблíва абрыдлівая і зняважлівая гэтая музыка, што гучыць з бара...***

— Пра гэта не будзем гаварыць. Дзе, хто і калі сабраў усе дыялектныя слоўнікі? А тут яны ўсе навідавоку. І я адразу ўбачыў, якія праваронію, пераважна тыя, што выдадзены ў Гомелі. Тут яшчэ раз паглядзеў дыялектны слоўнік Гарадзеншчыны, які падрыхтавала Тацяна Сцяшковіч. Некаторыя кажуць: «Хто яна ў нашым мовазнаўстве?» А вось хто — сабрала столькі цікавых слоў і склала слоўнік. Гэта навуковы подзвіг. Каб такія слоўнікі меў кожны беларускі адметны куточак, можна было б складаць слоўнік жывой беларускай мовы. Пачалі ж такую працу ў 30-я гады. Сабралі больш за 400 тысяч слоў. Шкада, прапала тая картатэка.

***— Ці ёсць магчымасць аднавіць?***

— Загінулі носьбіты тых унікальных слоў, якіх цяпер ужо ніхто не ведае. Хаця ёсць энтузіясты. Скажам, той жа Мікола Крыўко з Інстытута мовазнаўства нашай акадэміі. Дваццаць пяць гадоў збірае ён лексіку аднаго толькі рэгіёна — Дзісеншчыны. І ён не запісвае агульнавядомыя словы, скажам, «галава», «лапата», хіба што яны знаходзяцца ў фразеалагізмах або іншых адметных сінтаксічных канструкцыях. Ён ужо сабраў 80 тысяч, як кажуць вучоныя, лексічных адзінак. А яшчэ Крыўко рыхтуе вялікі слоўнік сінонімаў беларускай мовы. Адзін працуе. Яшчэ б некалькі такіх энтузіястаў, і можна спадзявацца, што слоўнік жывой беларускай мовы — цалкам рэальная справа.

***— Якія ўнікальныя выданні бачылі Вы на гэтай выставе?***

— Гэта, хутчэй, не слоўнікі, а толькі праекты іх. Прыкладам, атлас яўрэйскай мовы, яўрэйска-беларускі слоўнік, што былі падрыхтаваны яўрэйскім сектарам Інбелкульта. А слоўнікі для першай беларускай энцыклапедыі, якую меліся выдаваць з 1935 года? Унікальная рыхтавалася энцыклапедыя! Але, як вядома, не было ўжо каму пісаць.

***— Ці ўбачым мы калі-небудзь перавыдадзеным Ваш слоўнік псеўданімаў?***

— Матэрыялу назбіралася шмат. Але не варта нават марыць, што ён будзе выдадзены. Вось выдавецтва «Універсітэцкае» выдала ў 1990 годзе першы том цэнтральных гаворак Беларусі. А другога тома да гэтага часу няма. Не хапае грошай.

***— Магчыма, гэтым зацікавіцца прыватнае выдавецтва?***

— Яны выдаюць пераважна невялікія тэрміналагічныя слоўнікі. Пэўна ж, бачылі іх слоўнік хімічных тэрмінаў, вайсковы?..

***— Будзем спадзявацца на лепшае.***

Гутарыў З. СІЦЬКО.

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**Мікалай Васілевіч БІРЫЛА** (10. IX.1923, в. Скварцы Дзяржынскага р-на Менскай вобл.— 30.IX.1992) — акадэмік АН Беларусі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Працаваў у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва. У 1956—58 гг.— прафесар кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. З 1959 г. загадчык сектара навуковай тэрміналогіі Інстытута мовазнаўства АН Беларусі.

М. В. Бірыла даследаваў дыялекталогію, сучасную літаратурную мову, анамастыку, актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», а таксама «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа», які не мае аналогіі ў мовазнаўчай навуцы. Ён разам з А. Абрэмбскай-Яблонскай падрыхтаваў і рэдагаваў «Падручны польска-беларускі слоўнік» (Варшава, 1962).

М. В. Бірыла заснаваў новы кірунак у беларускім мовазнаўстве — анамастыку і напісаў трохтомную манаграфію «Беларуская антрапанімія»: т. 1 — «Уласныя імёны, імёнымянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы» (1966); т. 2 — «Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі» (1969); т. 3 — «Структура ўласных мужчынскіх імён» (1982).

*Паводле І. К. Германовіча.*

**ПЯТРУСЬ БРОЎКА. МОВА ЯГО ТВОРАЎ.** Вядомы беларускі паэт (25.VI. 1905—24.IV.1980), галоўны рэдактар Беларускай Энцыклапедыі (1967—1980). Яго паэзія прайшла праз індустрыяльную лексіку і фразеалогію і паступова сталася шчырай, цесна звязанай з жывой мовай, з беларускім фальклорам. Роднай мове і роднай песні П. Броўка прысвяціў палымяныя, сардэчныя і пяшчотныя радкі: *«Дзяды і бацькі нашу мову стварылі. каб звонка звінела, была як агонь»* («Родныя словы»), *«Багата, родная ты мова, цябе стварыў і ўзнёс народ. А вобразы, якія ў словах, а параўнанняў што за ўзлёт»* («Багата, родная ты мова...»), *«Песня стагоддзі жыве. Моцы яна набірала. Слова, ўскрыляючы нас, быццам маланка. шугала. Слова вастрылі вятры, каб узлятала высока, каб мы адзін аднаго чулі далёка-далёка...»* (Родная песня»).

*Паводле М. В. Абабуркі.*

**ЯНКА БРЫЛЬ. МОВА ЯГО ТВОРАЎ.** Народны пісьменнік Беларусі, аўтар шматлікіх твораў, якія вызначаюцца мастацкай дасканаласцю, а таксама лексічным, фразеалагічным, сінтаксічным багаццем. Я. Брыль — адзін з найлепшых знаўцаў роднай мовы, тонкі, удумлівы стыліст. Роднае слова дапамагае яму гаварыць пра самае складанае проста, але не спрошчана. Мова пісьменніка «арганічна вырастае з усяго багацця мовы народа. Не асобныя слоўцы, а цэлую сістэму народных уяўленняў пра жыццё і чалавека, сістэму народных ацэнак знаходзім мы ў яго творах» (так сказаў пра Брыля А. Адамовіч).

У кожным творы Я. Брыля — жывая народная мова, а таму можа ўзнікнуць думка, што пісьменніку проста пашанцавала пачуць такія словы. Але менавіта ў строгім адборы моўных сродкаў, у здольнасці знайсці патрэбнае слова, выслоўе, фразеалагізм і праяўляецца непаўторнасць стылю Я. Брыля. Ён майстар мастацкай дэталі, праз якую чытач бачыць вобраз такім, якім уяўляе яго сам аўтар. Неад'емны і значны элемент мовы пісьменніка — параўнанні, метафары, перыфразы.

Вядомыя яго шматлікія выказванні пра слова, пра лёс роднай мовы.

*Паводле Т. М. Трыпуцінай.*

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

Г. Я. ГАЛЕНЧАНКА

# БЕЛАРУСЫ: ФАРМІРАВАННЕ НАРОДНАСЦІ

*(Працяг. Пачатак у № 43).*

***Працягваем друкаваць раздзелы з вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».***

Аб'яднаўчым працэсам садзейнічаў высокі дзяржаўны статус старажытнабеларускай мовы. Дзякуючы высокаму культурнаму, палітычнаму, сацыяльна-эканамічнаму развіццю беларускіх зямель, функцыі дзяржаўнай беларуская мова пачала выконваць з першых стагоддзяў існавання ВКЛ. Як вядома, літоўцы не мелі сваёй пісьменнасці да XV ст. І пазней па сваіх грамадска-палітычных і культурных функцыях літоўская пісьменнасць доўгі час уступала беларускай і польскай мовам.

На беларускай мове вялося справаводства ва ўсіх дзяржаўных установах ВКЛ, у галоўнай — гаспадарскай канцылярыі ў Вільні большасць сакратароў і пісараў былі мясцовага паходжання. На ёй напісана пераважная большасць матэрыялаў, якія ўвайшлі ў склад вялікакняжацкага архіва (так званай Метрыкі Вялікага княства Літоўскага). Беларуская мова шырока выкарыстоўвалася ў розных судовых інстанцыях, у дыпламатычнай і прыватнай перапісцы, заканадаўстве, у канцылярыях мясцовых органаў улады, магістратах, магдэбургіях і г. д. На беларускай мове напісаны пераклад Вісліцкага статута (сярэдзіна XV ст.), Судзебнік Казіміра 1468 г., арыгіналы Статутаў Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гг. На ёй складаліся пісцовыя кнігі (рэвізіі) Пінскага, Клецкага княстваў, Кобрынскай эканоміі ў сярэдзіне XVI ст., афармляліся асноўныя заканадаўчыя акты, якія тычыліся аграрнай рэформы (Устава на валокі 1577 г.). На беларускай мове размаўлялі на сеймавых пасяджэннях, на дыпламатычных перамовах з маскоўскімі ці іншымі пасламі. На ёй таксама напісаны першыя вайсковыя Статуты ў 30-х гадах XVI ст., якія вызначалі асобныя аспекты ўнутранага жыцця войска і адносіны з мясцовым насельніцтвам. Вялікі ўклад у нармалізацыю і стабілізацыю дзяржаўнай беларускай мовы, у яе распаўсюджанне ўнеслі згаданыя Статуты Вялікага княства Літоўскага. Паўны артыкул у Статуце 1566 г., узноўлены ў Статуце 1588 г., прадпісваў: «А писар земский мает по руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншым езыком и словы». «Па руску», «словы рускими» тут азначаюць тагачасную беларускую мову. Гэта аднадушна зараз прызнаюць усе даследчыкі.

Статут 1588 г. быў упершыню надрукаваны ў віленскай друкарні беларускіх купцоў і прадпрымальнікаў Мамонічаў. У прадмове да Статута канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега пісаў з гордасцю: «в каждой речы посполитой человеку почтивому ничого не мает быти дорожшого над вольность... А естли которому народу встыд прав своих не умети, поготово нам (асабліва нам.— Рэд.), которые не обычым яким языком, але своим власным права описаные маем...»

Зразумела, што ў духоўным жыцці Беларусі адлюстраваліся не толькі спецыфічныя асаблівасці, але і найбольш істотныя рысы, характэрныя для гісторыка-этнаграфічнага рэгіёна, дзе пражывалі ўсходнеславянскія і славянскія народы, а ў больш шырокім плане — рысы еўрапейскай і агульначалавечай культуры.

У эпоху сярэднявечча, ва ўмовах, калі народы прытрымліваліся рознай рэлігійнай арыентацыі, рэлігія, як вядома, была адной з этнічных прыкмет, важным, падчас, вызначальным, кампанентам этнічнай самасвядомасці. Паводле «попісаў», інвентароў і іншых масавых пісьмовых крыніц, выказванняў сучаснікаў, у XIV — першай палове XVI ст. большасць беларускага насельніцтва заставалася праваслаўнай. Нават сярод шляхты удзельная вага каталікоў у цэнтральных, паўднёвых і ўсходніх паветах Беларусі (Полацкім, Менскім, Пінскім і інш.) складала некалькі працэнтаў.

Захаванне рэлігійных, моўных і культурных традыцый сярод беларускіх феадалаў у цэлым было менш устойлівым, чым сярод іншых слаёў насельніцтва. У канкрэтных умовах Беларусі другой паловы XVI ст. адмова часткі феадалаў ад рэлігійных і культурных традыцый садзейнічала збліжэнню з польскай шляхтай. Большасць пратэстанцкай знаці пасля Люблінскай уніі 1569 г. перайшла ў каталіцызм.

У этнічным развіцці народаў ВКЛ мелі месца асіміляцыйныя з'явы. Беларускія, украінскія, рускія перасяленцы, уцекачы, «новапрыходцы» адносна лёгка «ўпісваліся» ў роднаснае этнасацыяльнае асяроддзе. Большасць з іх (другое і трэцяе пакаленні) амаль нічым ужо не адрозніваліся ад тубыльцаў. Асіміляцыйныя тэндэнцыі выяўляліся таксама сярод літоўскіх феадалаў (частка членаў велікакняжацкай дынастыі, баяр і шляхты), якія здаўна аселі на беларускіх землях і мелі тут свае асноўныя ўладанні. Гэтыя тэндэнцыі закранулі частку літоўцаў-мяшчан і нешматлікіх літоўцаў-сялян, якія жылі на тэрыторыі з пераважнай колькасцю беларускага насельніцтва.

У гэты перыяд па-свойму развівалася этнічная самасвядомасць народаў ВКЛ, фарміраваліся новыя ўяўленні аб агульнасці паходжання, «айчызне», моўным, рэлігійным, культурным адзінстве членаў грамадства. Выразнай асаблівасцю этнічнай самасвядомасці беларусаў у той час быў значны ўплыў «зямляцкай» самасвядомасці («палачанін», «віцябленін», «магілёвец» і інш.), якая суіснавала побач з больш шырокімі этнічнымі ўяўленнямі, і рэлігійных традыцый.

У аснове этнічнай самасвядомасці беларускага першадрукара, асветніка, гуманіста Францішка Скарыны ляжаць шырокія ўяўленні аб усёй Русі, пад якой ён разумее перш за ўсё сваю Бацькаўшчыну — родную Беларусь — «иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил». З вялікай павагай, любоўю да Бацькаўшчыны Скарына пастаянна ўспамінае Полацкую зямлю, «славный град Полоцк». Па яго словах, «люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имеют».

Патрыятызм Скарыны заснаваны не толькі на пачуццях кроўнай, прыроджанай адданасці сваёй Айчыне, замілаванні яе культурнымі, гістарычнымі традыцыямі. Ён мае глыбінны дэмакратычны гуманістычны сэнс, накіраваны на актыўны ўдзел ва ўсякай карыснай, у тым ліку грамадскай дзейнасці: «Також и мы, братия,— пісаў Скарына ў прадмове да адной з кніг сваёй Біблії,— не можам ли во великих послужити посполитому люду рускому языка, сице малые книжки праци нашее приносимо им».

У шырокім сэнсе выкарыстоўвае тэрмін «Русь» іншы беларускі першадрукар, прадаўжальнік духоўных пачынанняў Скарыны Васіль Цяпінскі. Патрыятызм Васіля Цяпінскага таксама не абмежаваны саслоўнымі перагародкамі. Ён звяртаецца да ўсіх беларусаў і ўкраінцаў, да ўсіх «русінаў» Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай з палымяным заклікам узнавіць былую славу сваіх продкаў, пашыраць родную мову, падтрымліваць школы і асвету, распаўсюджваць хрысціянскую веру. Ва ўмовах, што скалаліся на Беларусі пасля Люблінскай уніі 1569 г., ён востра адчуваў пагрозу духоўнай дэнацыяналізацыі, паланізацыі, якая перш за ўсё закранула найбольш уплывовыя пласты беларускай шляхты, арыстакраты.

Патрыятычныя і гераічныя тэмы знаходзяць свой адбітак у вуснай народнай творчасці, паданнях, гістарычных песнях, лірычных баладах, у якіх апявалася любоў да бацькаўшчыны, роднай зямліцы, сваякоў, маці, каханай.

Узнікненне Рэчы Паспалітай пашырыла сацыяльна-эканамічныя і палітычныя прывілеі пануючага саслоўя — шляхты, але амаль не закранула фактычнага статуса феадальнай знаці — магнатаў. Невыпадкова буйны праваслаўны феадал Раман Сангушка сцвярджаў, напрыклад, што Рэч Паспалітая не толькі «мілая айчына, але раскошная, амаль святая зямля». У тым жа духу выказваўся князь Юрый Слуцкі ў пасланнях да канцлера Польшчы Яна Замойскага.

Усведамленне гістарычнай, этнічнай, культурна-рэлігійнай своеасаблівасці Беларусі паўплывала на паступовае распаўсюджанне тэрміна «Белая Русь» у дачыненні да беларускага рэгіёну ВКЛ. У канцы XVI ст. гэтым тэрмінам пераважна карысталася беларуская інтэлігенцыя, у прыватнасці пісьменнікі-палемісты, некаторыя духоўныя дзеячы, а таксама дыпламаты, замежныя аўтары, картографы і інш. Хоць асноўнай саманазвай беларускага і ўкраінскага насельніцтва ў той час яшчэ заставалася назва «рускі». Але трэба абавязкова адзначыць, што мясцовае насельніцтва ўжо выдатна адрознівала сябе ад «маскавітаў» суседняй дзяржавы.

У сучаснай замежнай і айчыннай гістарыяграфіі пануюць розныя погляды наконт паходжання назвы «Белая Русь». Адны даследчыкі звязваюць яе з кліматычна-геаграфічнымі або этнаграфічнымі асаблівасцямі, другія — з царкоўна-рэлігійнымі, знешнепалітычнымі фактарамі («Белая» — значыць вольная Русь, незалежная ад мангола-татарскіх намеснікаў). Апошняй, найбольш распаўсюджанай канцэпцыі пярэчыць той факт, што гэтая назва атрымала асабліва пашырэнне ў дачыненні да Беларусі ў той перыяд, калі і іншыя ўсходнеславянскія землі былі ўжо незалежнымі ад мангола-татар. Больш верагодная здаецца гіпотэза, якая ўлічвала асаблівы, больш самастойны, адміністрацыйна-дзяржаўны статус некаторых усходніх зямель Беларусі, перш за ўсё Полацкай і Віцебскай, у складзе ВКЛ. Заходнія беларускія, як і некаторыя ўкраінскія, землі знаходзіліся ў іншым, залежным ад Вільні, становішчы.

«Князем Белае Русі» ў канцы XV — пачатку XVI ст. зрэдку менаваўся вялікі маскоўскі князь. Але, як сведчыць вядомы дыпламат Жыгімонт Герберштэйн, паходжанне гэтага тытула не маглі растлумачыць яму нават дасведчаныя ў такіх справах маскоўскія дзякі.

Гістарычныя традыцыі і новыя палітычныя тэндэнцыі садзейнічалі паступоваму распаўсюджанню тэрміна «Белая Русь» у адносінах да беларускіх зямель. Між іншым, у большасці пісьмовых крыніц XIV XVI стст. (на картах, дзе адзначана «Alba Russia», у запісках чужаземцаў, летапісах і хроніках, эпісталярных, царкоўных і дыпламатычных помніках) адлюстроўваюцца ўяўленні аб «Белай Русі», як тэрыторыі, якая ахоплівае Паўночна-Усходнюю Русь, Наўгародска-Пскоўскія землі, усю, або ўсходнюю частку Беларусі, частку Украіны ў межах ВКЛ.

У значнай частцы крыніц XIV—XVI стст., пачынаючы з польскай хронікі Яна з Чарнкова, Белая Русь успамінаецца ў дачыненні да тэрыторыі Беларусі. У канцы XV — сярэдзіне XVI ст. у літаратурных крыніцах усё больш выразна прасочваюцца ўяўленні аб Белай Русі як адасобленай уласна беларускай ці беларуска-украінскай або беларускай і часткова рускай тэрыторыі.

Сакратар польскай каралеўскай канцылярыі Марцін Кромер у сваёй гістарычнай працы, прысвечанай Польшчы (каля 1558 г.), не толькі зазначае, што Белая Русь мяжуе з Маскоўскай дзяржавай, але і вызначае яе паўночную граніцу — 57° шыраты. На поўнач ад Белай Русі, адзначае Кромер, размешчана Лівонія. На поўдні яна мяжуе з Валынню і Чырвонай Руссю. У пасланнях папскага пасла ў Польшчы Ліпамана 1575 г. зроблена тлумачэнне: «Чырвоная Русь названа так дзеля таго, каб адрозніваць яе ад Белай Русі, якая знаходзіцца на сумежных землях Літвы і Маскоўскай дзяржавы». Падрабязна апісана Белая Русь у 4-й кнізе Хронікі Мацея Стрыйкоўскага, які доўгі час жыў на Беларусі. У паэме «Пруская вайна» Яна з Вісліцы і ў Хроніцы Стрыйкоўскага сустракаецца вельмі рэдкае ў тагачаснай літаратуры ўпамінанне этнічнай катэгорыі беларусаў. Стрыйкоўскі адрозніваў «беларусаў літоўскіх» як часткі адзінага народа ўсёй Белай Русі ў шырокім сэнсе слова і разам з тым як адзін з некалькіх роднасных беларускіх народаў.

У рускіх актах першай паловы XVII ст. упамінаюцца «беларусцы» Полацкага, Мсціслаўскага, Аршанскага, Капыскага, Дубровенскага і іншых паветаў. Беларускія выхадцы або палонныя сяляне, мяшчане, шляхта ў XVII ст. нярэдка называлі сябе за мяжой «літвінамі беларусцамі».

Далейшае этнічнае развіццё беларускай народнасці ў канцы XVI—XVII стст. праходзіла ў асабліва складаных сацыяльна-палітычных, эканамічных і культурных умовах у дзяржаўных межах ВКЛ. У выніку Люблінскай уніі і адыходу украінскіх зямель і Падляшша да Польшчы былі надоўга вызначаны палітычныя граніцы Вялікага княства і асноўныя этнічныя межы Літвы і Беларусі. Гэты перыяд характарызуецца паглыбленнем сацыяльна-класавых супярэчнасцей, абвастрэннем этнічна-рэлігійных адносін, акаталічваннем значнай часткі беларускіх феадалаў і адначасова ўздымам этнічнай самасвядомасці, грамадска-палітычнай, рэлігійнай і культурнай дзейнасці патрыятычных слаёў мяшчанства, шляхты, больш актыўным удзелам народных мас Беларусі ў духоўным жыцці, розных грамадска-палітычных рухах.

*(Тэкст скарочаны; матэрыял да друку падрыхтаваў Мар'ян ВІЖ).*

# «Вяшчун, паэт, мастацтва бог...»





Грамадскасць рэспублікі адзначае 105-ю гадавіну з дня нараджэння вядомага беларускага мастака Язэпа Драздовіча.

НА ЗДЫМКАХ: помнік Я. Драздовічу, адкрыты нядаўна ў Траецкім прадмесці Менска; карціна Я. Драздовіча «Скрыпач».

Фота А. ТАЛОЧКІ, Белінфарм.

*У свеце слоў*

# Афарызм — паэзія думкі

Старажытныя грэкі вельмі паважалі ўрача, рэфарматара медыцыны, філосафа Гіпакрата. Ва ўсе наступныя часы яго імя звязвалася з уяўленнем аб найвышэйшай маральнай годнасці ўрача. Нездарма менавіта Гіпакрату прыпісваюць тэкст вядомай клятвы — клятвы Гіпакрата, якую і сёння даюць медыкі. Працы Гіпакрата цаніліся вельмі высока, а яго **азначэнні** розных з'яў і прадметаў лічыліся ўзорнымі. Па-грэчаску **азначэнне** — *aphorismás*. Ад гэтага слова і бярэ пачатак тэрмін **афарызм.**

Сёння пад афарызмам разумеюць выказванне, якое змяшчае лагічна закончаную думку-суджэнне, што перадае вартае ўвагі жыццёвае назіранне, заклік, маральную ацэнку, параду, разважанне і г.д. Абавязковая адзнака афарызма — яскравая, трапная, лаканічная слоўная форма. «З акіяна чалавечай мудрасці як бы адкрываюцца грабеньчыкі самых высокіх хваляў — самых мудрых, самых глыбокіх думак — гэта і ёсць афарызмы»,— пісаў даследчык такіх выслоўяў М. Т. Федарэнка.

Афарызмы — самастойны літаратурна-філасофскі жанр мастацкай творчасці. Многія пісьменнікі стваралі і ствараюць афарызмы, а некаторыя з творцаў і вядомыя, перш за ўсё, як аўтары такіх мініяцюр. Шырокую вядомасць набылі, напрыклад, афарызмы Г. К. Ліхтэнберга, Ф. дэ Ларошфуко, Е. С. Леца, В. В. Ключэўскага. Існуюць літаратурныя творы, што цалкам складаюцца з афарыстычных выказванняў. У якасці прыкладу можна прыгадаць знакаміты будыйскі помнік «Дхамапада» («Сцяжына дабрачыннасці»), у якім ёсць такія радкі: «Адно карыснае слова, пачуўшы якое, людзі спакайнеюць, лепей за тысячы прамоў, складзеных з бескарысных слоў» або: «У таго, хто пачцівы і заўсёды паважае старых, узрастаюць чатыры дхамы: жыццё, прыгажосць, шчасце, сіла». Вельмі часта афарызмы ўваходзяць у склад іншых твораў, таму пераважная большасць іх — гэта «ўрыўкі» з мастацкіх, публіцыстычных, філасофскіх, навуковых, рэлігійных сачыненняў.

Афарызм — адна з разнавіднасцей трапных выслоўяў. Да іх адносяць таксама сентэнцыі, крылатыя словы, прыказкі, максімы, апафегмы і інш. Усім ім уласціва афарыстычнасць, сутнасць якой у спалучэнні глыбіні і вартасці думкі з майстэрствам слова. Афарыстычнасць — гэта садружнасць зместу і формы, думкі і слова, гэта мастацтва думкі-слова. І гэта мастацтва займае пачэснае месца ў кожнай нацыянальнай культуры, у духоўнай скарбніцы кожнага народа.

А што ж мы, беларусы? Упэўнены, што мы не беднейшыя за іншых. Толькі, як і ў многіх іншых выпадках, не парупіліся сабраць і свету паказаць, чым багатыя. Калі не гаварыць тут пра том народных выслоўяў з багатага акадэмічнага збору (бо гэта фальклор), то ледзь не адзінай, складзенай па літаратурных крыніцах, будзе кніжка Ф. М. Янкоўскага «Крылатыя словы і афарызмы» (1960 г.).

Але ж у нас ёсць Ян Ліцыній Намыслоўскі — аўтар выключнага ў сваім родзе зборніка выказванняў-сентэнцый «Павучанні для ўсеагульнага карыстання ў жыцці». Настаўнік (з 1585 года) школы ў Іўі, ён сабраў 225 афарыстычных выслоўяў і тым самым адначасова стварыў першы беларускі падручнік па замежных мовах, таму што ў кнізе чаргаваліся выказванні на лацінскай, польскай і нямецкай мовах. Згадаем тут колькі яго сентэнцый.

37. Высакародны розум
Не, не багацце дае высакароднаму розуму сілу.
Розум наш — самы найкаштоўнейшы ў свеце са скарбаў зямных.

51. Язык
Раніць бязлітасны меч цела жывое не гэтак,
Як непавіннага — ядам смяртэльным злачынны язык.

103. Вайна
Любы бог Марс не спазнаўшым яго; той жа, хто горыч
Зведаў аднойчы вайны, той не прыхільнік яго.

Традыцыі Яна Намыслоўскага захоўваліся і развіваліся ў беларускай літаратуры. Варта толькі пагартаць творы Багушэвіча, Купалы, Танка, Крапівы, Караткевіча, Панчанкі, Барадуліна, Законнікава і многіх іншых, каб пераканацца ў гэтым.

Выключнае месца ў беларускай афарыстыцы займае Якуб Колас. Ён добра ўсведамляў мастацкую і жыццёвую вартасць гэтага малога жанру. І хоць не імкнуўся звяртацца да яго дзеля яго самога, затое вельмі ахвотна і шырока выкарыстоўваў афарызмы і іншыя выслоўі, па-майстэрску ўводзячы ў мастацкую тканку іншых, больш буйных твораў. Пра тое, што Якуб Колас любіў і цаніў афарызмы, сведчаць розныя факты, і іх нямала. Афарызм,— кажа ён вуснамі Гарнака з п'есы «Забастоўшчыкі»,— «гэта разумна выказаная думка, якая жыла ў галаве філосафа, а цяпер будзе вісець на кручку мудрасці». Другі ягоны герой (Сцёпка з аповесці «На прасторах жыцця») заўважае: «Каб выказаць разумную думку, не трэба многа прыгожых і выкрутасістых слоў». Прыгадаем яшчэ сябра Андрэя Лабановіча Янку Тукалу («На ростанях»), на якога, па словах аўтара, часам «наплывала афарызмавая хваля».

Але найбольш пераканаўчым сведчаннем увагі Коласа да аднаго з малых жанраў літаратуры служыць яго ўласнае пяро. Толькі частка Коласавых афарызмаў увайшла ў шырокі ўжытак (Ф. М. Янкоўскі ў сваёй кнізе падае 56 выслоўяў Якуба Коласа). На справе ж іх многія сотні. А калі ўлічыць яшчэ іншыя трапныя выразы пісьменніка (аўтарскія і народныя прыказкі, прымаўкі, перыфразы, параўнанні, трапныя найменні, анекдоты, прытчы, алегарычныя дыялогі, тосты, каламбуры, заклікі, праклёны, звароткі, фразеалагізмы і г.д.), то яго афарыстычная спадчына яшчэ значна павялічыцца. Якуб Колас — гэта жывая плынь нацыянальнага маўлення, шчодрая і гаючая крыніца духоўнасці беларуса. Яго ж словамі кажучы:

Не поп наш дзядзька, але ўмее
Зірнуць часамі «ў свае святцы»,
Каб трапным словам адазвацца.

**Міх. НЕВІЧ.**

# *Шаноўны галоўны рэдактар!*

**Вядома, шчыра дзякую за публікацыю майго артыкула «Пакіньце займацца дурніцай» (№ 40, 1993). Аднак мне сорамна, што ў «Нашым слове» мяне выставілі гэткім, як бы мовіць, ментарам-правінцыялам, які хоча паказаць сябе вышэй за чытача, дзеля чаго ў свой тэкст уводзіць каментарыі-заўвагі, быццам паясняючы цытаты з мудрагелістага апанента альбо з класікаў, якіх чытач не разумее без ягонага пасрэдніцтва. Хіба не смешна — пасля слова «перлюстрацыя», набранага курсівам (а навошта той курсіў?), у дужках падаецца тлумачэнне слова (быццам аўтар лічыць чытачоў газеты — беларусаў — невукамі, у якіх няма ні тлумачальных слоўнікаў, ні ўласнай кемлівасці), і ў дадатак — пазначэнне «аўтарства» заўвагі (тлумачэння аўтарскага тэксту?) — аўтарскімі, зноў-такі, ініцыяламі. Абсурд?..**

**Прашу шаноўных чытачоў газеты «Наша слова» памянёную заўвагу ў дужках (што такое «перлюстрацыя») лічыць «заўвагай ад рэдакцыі».**

**Таксама мушу папрасіць у чытачоў газеты прабачэння за друкарскую памылку ў цытаванні палымянскай публікацыі прафесара Ул. Калесніка (першая калонка, 6 радок знізу): не 19826 год, а 1926 год.**

**Г. К.**

**(Георгій КОЛАС.— Рэд.)**

*АД РЭДАКТАРА. Зноў выклікаючы, магчыма, незадавальненне ў шаноўнага аўтара, расшыфроўваем ягоны подпіс-крыптанім, хоць амаль упэўнены — усе чытачы памятаюць (ведаюць), што гэта Георгій Колас, які не з'яўляецца «ментарам-правінцыялам». Сапраўды, тлумачэнне адносна тэрміна «перлюстрацыя» было не ягоным, а рэдакцыйным. Г. К. арыентуецца, відаць, толькі на чытачоў з вышэйшай філалагічнай адукацыяй, а мы помнім і пра тых нашых шчырых сяброў школьнікаў-старшакласнікаў, у якіх няма яшчэ, магчыма, не толькі тлумачальнага слоўніка, але і ведаў пра таемнае чытанне і перапісванне чужых пісьмаў дзеля «дзяржаўных» патрэб, прыхаванае лацінскім словам.*

*А наконт друкарскіх памылак — гэта бяда апошняга часу не аднаго нашага выдання, хоць нам ад гэтага не лягчэй, канешне.*

*Чыталі?*

# Знаёмцеся: часопіс «Годнасць»

***«Годнасць» — такую назву мае часопіс, першы нумар якога выдадзены Згуртаваннем беларускай шляхты (ЗБШ). Згуртаванне створана меней як год назад. Але дзейнасць яго ўжо прыцягнула ўвагу грамадскасці. Цяпер Згуртаванне займела сваё друкаванае выданне. Гутарку нашага карэспандэнта з рэдактарам першага нумара новага часопіса сябрам Найвышэйшай Рады ЗБШ Уладзіславам Вяроўкіным мы прапануем вам сёння.***

**— Уладзіслаў, напачатку традыцыйнае ў падобных выпадках пытанне: з якімі мэтамі ствараўся часопіс?**

— Найперш, і гэта вынікае з заявы Устаноўчага Сойму ЗБШ, з мэтай прапаганды і пашырэння ведаў пра гісторыю шляхты, культурных звычаяў і ўзораў шляхетных паводзін сярод насельніцтва Беларусі. На жаль, у гістарычнай і мастацкай літаратуры беларуская шляхта малявалася пераважна адмоўна. Варта згадаць, напрыклад, «Пінскую шляхту» Дуніна-Марцінкевіча. Але ж ніхто не стане сцвярджаць, што расійскае дваранства скрозь падобна на герояў п'ес «Горе от ума» і «Недоросль». Безумоўна, што раней мэтанакіравана праводзілася пэўная палітыка, каб абылгаць, прынізіць беларускую шляхту. Хоць шляхта — гэта гонар любой краіны. Прынамсі, на Беларусі большая частка твораў літаратуры, архітэктуры, выяўленчага мастацтва стваралася прадстаўнікамі шляхты. На плячах шляхты, як вядома, ляжала і вайсковавая справа.

**— Але вернемся да зместу часопіса.**

— У першым нумары значны аб'ём займаюць афіцыйныя паведамленні пра Устаноўчы Сойм Згуртавання. Але тут жа мы распачалі друкаваць Малы гербоўнік беларускай шляхты і Шляхецкія спісы. Сярод нашых канкрэтных задач — выкладанне на старонках часопіса навукова-папулярнай гісторыі беларускага шляхецкага саслоўя і вядомых шляхецкіх родаў. Адной з важных спраў я лічу друкаванне згаданых Шляхецкіх спісаў. На жаль, поўнай статыстыкі дакладнай колькасці шляхты няма. Таму шмат хто з нашых суайчыннікаў сёння нават не здагадваецца аб сваім шляхецкім паходжанні.

**— Відаць, гэтыя спісы павінны падштурхнуць людзей да пошукаў сваіх радаводаў?**

— Так, так. Гісторыя складаецца з асобных людзей. І формула: «Падзея — усё, чалавек — нішто» — ёсць галоўная загана савецкай гістарыяграфіі.

**— Калі ласка, пан Уладзіслаў, пазнаёмце з планамі часопіса на будучыню.**

— Хачу сказаць, што мы збіраемся выдаваць свой часопіс штоквартальна. У другім нумары чытачам прапануецца вялікі артыкул Сяргея Рыбчонка пра менскія масонскія варштаты, новы погляд на паходжанне Васіля Цяпінскага, шэраг іншых матэрыялаў.

Тым, хто зацікавіцца нашым выданнем, паведамляем адрас для карэспандэнцыі: Беларусь, 220102, Менск-102, а.с.—212, «Годнасць». Чытайце, пішыце нам, рабіце высновы.

**Гутарку вёў Т. ТАНКЕВІЧ.**

*Выставы*

## «Сонечны прамень»

Пад такой назвай у Гомельскім абласным цэнтры народнай творчасці разгорнута выстава вышыўкі і вырабаў з саломкі. У экспазіцыі — каля 200 экспанатаў, аўтары якіх—людзі пераважна сталага веку. Калі вырабаў з саломкі даволі багата, то традыцыйная вышыўка крыжыкам налічвае ўсяго некалькі работ. На жаль, ёю сёння валодаюць толькі некаторыя пенсіянеры. Таму адна з задач выставы — адрадзіць гэты старажытны від мастацтва.



НА ЗДЫМКУ: супрацоўніца Гомельскага абласнога цэнтра народнай творчасці Алена Каржова і галоўны спецыяліст цэнтра па фальклору Іван Капцэвіч.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.

# Шаноўныя чытачы!

Просім не адкладваць з афармленнем падпіскі на «Наша слова» — 1994.

Рэдакцыя рыхтуе новыя рубрыкі, панаўляе традыцыйныя. Па Вашых прапановах больш удзелім месца перакладам вострасюжэтных літаратурных твораў.

Рыхтуем слоўнікі, размоўнікі, парады спецыялістаў і многае іншае.

Умовы ў каталогу.

Наш падпісны індэкс 63 865.

## Каляндарны план работы Дома літаратара на лістапад 1993 года

| | | |
|---|---|---|
| 4 лістапада чацвер | „Дзядоўскіх душаў чуйны космас" Вечарына-роздум пра вечнасць паводле кнігі Антаніны Хатэнкі „Зніч крыжовых дарог" | Пачатак 18.30 Кавярня |
| 9 лістапада аўторак | „Паміж усмешкай і слязой" Аўтарская вечарына паэткі Ніны Мацяш | Пачатак 18.30 Кавярня |
| 11 лістапада чацвер | Эпічны жывапіс народнага жыцця Творчы вечар пісьменніка Вячаслава Адамчыка | Пачатак 18.30 Вялікая зала |
| 16 лістапада аўторак | Прэм'ера кнігі Уладзіміра Ліпскага „Вясёлая азбука" | Пачатак 15.00 Вялікая зала |
| 18 лістапада чацвер | „Адвечны водгук праўды, волі..." Да 70-годдзя выхаду ў свет паэмы Якуба Коласа „Новая зямля" | Пачатак 18.30 Вялікая зала |
| 19 лістапада пятніца | Мужная і журлівая муза Вечар памяці паэтэсы Яўгеніі Янішчыц | Пачатак 18.30 Кавярня |
| 23 лістапада аўторак | З добрага смеху добрая й пацеха Прэм'ера кнігі літаратурных пародый Міхася Скоблы „Розгі ў розніцу" | Пачатак 18.30 Кавярня |
| 25 лістапада чацвер | Праз пяць гадоў. Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў і школ г. Мінска адзначае сваё пяцігоддзе | Пачатак 18.30 Вялікая зала |
| 30 лістапада аўторак | „Пясняр жыцця і барыкад" Вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння пісьменніка Піліпа Пестрака | Пачатак 18.30 Кавярня |

*Іранічныя радкі*

## Яшчэ пра мову...

Што напісаць яшчэ пра мову?
Ужо колькі вымаўлена слоў!
Аб тым, што родная, гаротная,
І перанесла здзек і зло.
Што талерантная, рахманая,
Нібы такі і наш народ,
Што толькі йшчэ не запрашае
Залезці да сябе ў гарод.
А некаторыя рупліўцы,
Што з ліку інтэрнацыяналістаў,
Глядзяць у бок чужой сталіцы,
А ў нас тут, кажуць, проста «край»
«Северо-Западный», які
Ужо існуе тут два вякі.
З другога ж боку, «Вялька Польшча»
Крычыць, што ў нас тут «крэсы всходне».
І іхня польская мяжа
Аж пад Смаленскам пралягла.
А Берасцейская ўскраіна,
Гаворачь, што нібы Украіна,
Ды, праўда, там яшчэ яцвягі
З лясоў выходзяць на абсягі.
А Гомля? Увогуле Расея,
Вось гэтак, пане-дабрадзею?!
А вы пра нейкіх беларусаў.
Ды тут няма чаго і слухаць!
Ну, вось такая ў нас размова
Прайшла, хоць і была пра мову.

Юрась ПІВУНОЎ.

г. Магілёў.

## Народная лякарня

### Д. ДЖАРВІС: Калій і вадкія выдзяленні

Назіраючы з дня ў дзень за статкам кароў, доктар Джарвіс выявіў, што ў некаторых з іх слязіліся вочы, а слёзы сцякалі кроплямі. Здавалася, што жывёлы плачуць. З носа ў іх таксама цякла слізь, некаторыя нават чхалі. Паколькі вядома, што калій выклікае смагу, бо, як магніт, прыцягвае ваду, то ў рацыён жывёл пачалі дадаваць воцат: па дзве унцыі яблычнага воцату два разы на дзень (адна унцыя блізкая да 28,7 г ). У выніку ў кароў супакоіўся кашаль, спыніліся выдзяленні з вачэй і носа. Правільны вывад будзе такі: водны абмен у жывёл быў парушаны з-за недахопу калію ў корме. Забеспячэнне арганізма дастатковай колькасцю калію садзейнічае працэсу дэгідрацыі (адшчапленне вады ад калію). Лішак слізі знікае, і колькасць вады ў арганізме нармалізуецца. Калі ў пацыента, зазвычай у гарадах, слязяцца вочы, напрошваецца аналагічны вывад. Раствор робяць з адной чайнай лыжачкі яблычнага воцату і адной кроплі раствору ёду на шклянку вады. Змесціва перамешваюць і п'юць удзень за ядою на працягу двух тыдняў. Звычайна гэта дапамагае — слязлівасць праходзіць. Пры неабходнасці лячэнне можна прадоўжыць яшчэ на два тыдні. Пасля гэтага прыём раствору рэкамендуецца паўтараць па аўторках і пятніцах з мэтай папярэдзіць рэцыдывы. У час лячэння нельга ўжываць цытрусавыя фрукты і іх сокі, паколькі яны часам з'яўляюцца прычынай алергічнага катару.

Вывучэнне абмену калію паказвае на яго сувязь з пасляродавымі выдзяленнямі: ён уплывае на водны абмен і вывядзенне вадкасці з арганізма праз ныркі, каб зменшчыць пасляродавыя выдзяленні.

Па наступных прыкметах можна вызначыць недахоп калію ў арганізме:

1. Зніжаецца ўзровень разумовай дзейнасці, кемлівасці, пагаршаецца памяць.
2. З'яўляюцца сімптомы фізічнай і разумовай стомленасці. Памяншаецца фізічная трываласць, хутка настае стомленасць.
3. Павышаецца адчувальнасць да холаду. Перавага аддаецца цёплай ежы перад халоднай. Мерзнуць рукі і ногі.
4. На падэшвах ног нярэдка з'яўляюцца мазалі.
5. Часта непакояць запоры.
6. Людзі часцей хварэюць і прастуджваюцца.
7. Часам у іх прападае апетыт, часам з'яўляецца моташнасць і рвота.
8. Парэзы і выцятыя (удараныя) месцы зажываюць маруднa.
9. Скура часта чэшацца, на ёй могуць з'яўляцца вугры.
10. Псуюцца зубы.
11. Бываюць сутаргі мышцаў ног, асабліва ноччу.
12. Бывае цяжка расслабіцца.
13. Бывае дрэнны сон.
14. Можа з'яўляцца боль у суставах, які ствараe ўражанне артрыту.

З гадамі такім людзям неабходна павялічваць штодзённае ўжыванне з ежай калію. Як правіла, неабходна ў два разы павялічваць ужыванне калію у выглядзе мёду, свежай гародніны, фруктаў і ягад. Калій патрэбны не толькі для падтрымання добрага здароўя, паколькі ён выконвае важныя функцыі ў арганізме, але таксама і для падтрымання балансу паміж каліем і натрыем. Ужыванне калію можна павялічваць наступным спосабам:

1. Чырвоны перац — багатая крыніца калію. Яго можна дадаваць у стравы 1—2 разы ў дзень.
2. Сумесь мёду і яблычнага воцату з вадой, аб чым гаварылася вышэй.
3. Сумесь вінаграднага, журавіннага або яблычнага соку двойчы ў дзень забяспечвае неабходную колькасць калію для арганізма.

У паўсядзённай практыцы разнастайнага харчавання вы навучыцеся вызначаць, якія прадукты найбольш для вас прымальныя, і будзеце іх ужываць часцей, чым іншыя. Вінаградны сок як крыніца калію практычна можа ўжывацца многімі людзьмі.

Хімічны састаў вінаграду ў працэнтах: вада — 77,4, бялкі — 1,3, тлушчы — 1,6, вугляводы — 19,2. Мінеральны састаў вінаграду ў працэнтах: калій — 11,49, натрый — 0,97, кальцый — 1,63, магній — 1,21, жалеза — 0,36, фосфар — 7,08, сера — 1,01, хлор — 0,42.

Вінаградны сок хутка наталяе смагу, нават калі выпіць яго невялікую колькасць. Хуткае дзеянне вінаграднага соку тлумачыцца тым, што ён адразу паступае ў кроў, без пераграўлівання ў страўніку, і хутка засвойваецца арганізмам.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 33-17-83



Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 295.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 7329 паасобнікаў. Падпісана ў друк 29.10.1993 г. у 15 гадзін.